# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№49 (1188) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 3 СНЕЖНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.



**Па роднай зямлі.** Рака Нарва каля вёскі Войшкі. Фота М. Гайдука.

# Сляды нашых продкаў

Каля Драгічына, пад самай Замкавай гарой, ляжыць некалькі дзесяткаў аграмадных каменняў — валуноў. Вірыцца вакол іх напорыстая бужанская плынь, паблізу перашэптваюцца прыбярэжныя чароты. І кожны раз, калі я наведваю гэты маляўнічы куточак Надбужжа і гляджу на тыя каменні, мяне агортвае страх: вось-вось, здаецца мне, прыедзе цягачом нейкі будаўнік і, закінуўшы на гэтыя гранітныя галовы пятлю са стальной лінкі, павыцягвае іх, вывезе, каб зараз жа струшчыць на кавалкі і заліць цэментам у фундамент новага домікавілы ці звычайнага хлява для свіней. І прападуць бясследна адзіныя ўжо сведкі аграмаднага кавалка гістарычных падзей, што адбываліся на гэтай жа Замкавай гары ў Драгічыне. Бо не можа быць і сумнення, што яны ўпалі ў раку з размытай чарговымі паводкамі гэтай жа гары. Каб добра прыгледзецца да іх, то можна было б заўважыць на іх выгладжанай вадою паверхні дзіўныя трэшчыны, не інакш — сляды таго вогнішча, што распальвалі на Купалле на сваім язычаскім капішчы-ахвярніку колішнія бужане. Там ды сям мо захаваліся таксама сляды таямнічых рунаў, якія выразбілі недзе ў VIII-X стагоддзях нарманы-варагі, калі адпачывалі тут падчас перапынкаў у іх незлічоных падарожжах па Бугу ў багатую „краіну гарадоў“ — „Гардарыкію“, як яны называлі тадышнія ўсходнеславянскія землі. І без лішніх здагадак напэўна вядома, што гэтыя каменні складалі сцены той царквы, у якой у 1254 годзе князь валынскі і галіцкі Даніла Раманавіч вянчаўся на першага караля Русі. У іх нутры яшчэ трывае, напэўна, акамянелы трэск коп'яў, скрыгат шабляў і стогны паміраючых з тае схваткі абаронцаў Драгічына з наезнікамі-крыжакамі, што адбылася тут у 1380 годзе...

Таму, маючы намер нагрузіць фуру каменнямі, што спакон веку ляжаць на нейкім дзіўным пагорку сярод поля, над рэчкаю ці ў іншым месцы, спачатку варта дакладна прыгледзецца і падумаць, ці гэта часам не старажытная магіла. Калі ваш плуг, лапата ці матыка на полі або ў агародзе дабудзе з зямлі якісьці дзіўны гаршчок ці чарапы, не спяшайцеся таўчы яго ды рыць навокал, шукаючы золата, бо апрача попелу, вуголля, перапаленых костак ды іншых рэштак вы нічога, напэўна, не знойдзеце, але ў той час несвядома знішчыце каштоўнейшую ад залатога скарбу знаходку — нашага продка пахаванне, якому некалькі тысяч год. Я і сёння не магу забыць пра тое, што мне некалькі год таму расказалі ў адной з вёсак ля вытокаў ракі Бебжы. На выгане там была пясчаная горка. Нярэдка вецер і вада дабывалі з яе чалавечыя чэрапы, касцякі і іншыя астанкі. Дзеці-пастушкі біліся імі, забаўляліся... А гэта, праўдападобна, была брацкая магіла воінаў, загінуўшых у палове XVII стагоддзя ў часе славутага „шведскага патопу“. Жудасць, праўда? Таму пільна ахоўвайма (і прывучайма да гэтага іншых старэйшых і маладзейшых) усе курганы, замчышчы, насыпы, нагробныя пліты і каменні, прыдарожныя крыжы і капліцкі, словам, усё тое, што з'яўляецца следам, пакінутым нашымі далейшымі і бліжэйшымі продкамі. А калі знаходзім такі след, пакіньма яго некранутым, такім, як быў дагэтуль, не забаўляймася ў „адкрывальнікаў гістарычных таямніц“. Затое пры нагодзе не праміненце расказаць пра яго настаўніку гісторыі ў бліжэйшай школе, працаўнікам музея.

Прызнаюся, мяне проста ачаравала ініцыятыва моладзі з вёскі Малявічы Дольныя на Сакольшчыне. Там хлопцы і дзяўчаты рашылі ўзяць пад сваю апеку стары вятрак, што стаіць на пагорку каля вёскі. Зробяць у ім неабходны рамонт даху, сценаў, узмоцняць, каб вятры ды дажджы не нішчылі гэты стройны помнік даўніны. Потым мо ў ім адкрыюць кавярню ці невялічкі музей. Што ж, пашанцавала колішняму мукамолу і крупадзёру з Малявіч Дольных!.. Але толькі яму, бо дзесяткі такіх жа помнікаў колішняй сялянскай тэхнікі на працягу апошніх год назаўсёды знікла з краявіду Беласточчыны. Але тыя ветракі, вадзяныя млыны, кузні, манежы, лазні, свіронкі і іншыя збудаванні, што яшчэ стаяць, патрабуюць апекі ад усіх нас. Не спяшайма разбіраць гэтыя творы тэхнічных помыслаў і ўменняў нашых прадзедаў і дзядоў! Лепш забяспечыць іх ад знішчэння ды выкарыстаць для гаспадарчых мэтаў як нейкі там складзік, каморку, паветку, ці іншае прыпорышча. Няхай сабе пастаяць у спакою гэтыя шаноўныя старэчы. Шануйма іх, мо нашыя ўнукі і праўнукі ўшануюць і гэтыя муравані, гаражы, прасторныя аборы, што мы цяпер з такой дбайнасцю ўзводзім? Яны праз сто год таксама будуць руінамі. Дайма маладым добры ўзор і прыклад.

(Працяг на стар. 4)

Нямала ёсць у „Пасманце“ старажылаў, што памятаюць першыя, нялёгкія крокі свайго прадпрыемства. Пачыналі 25 год назад даслоўна з нічога. Але швейная прамысловасць, электратэхнічная ды і простыя пакупнікі патрабавалі „дробязей“, без якіх нельга было абысціся.

Знайшліся старыя будынкі. Першыя кросны і машыны збіралі па розных фабрыках краіны. Большасць атрымалі ў спадчыне з беластоцкай „Плюшоўкі“, частку з Лодзі.

У першыя гады 240 рабочых прадукавалі 50,5 мільёнаў метраў featured рознага роду стужкі вартасцю 17 мільёнаў злотых. Выраблялі тады дэкарацыйныя стужкі і тэхнічную ізаляцыю.




Сёння, праз 25 гад, фабрыка дае ўжо каля 300 мільёнаў метраў рознага роду стужак, тасемак і гумак, а вартасць прадукцыі дасягае 350 мільёнаў злотых. Усе вырабы „Пасманты“ дзеляцца на тры групы: галантэрэя штодзённага ўжытку — гумкі белізняныя, на паясы і шлейкі, шнуркі рознага роду, тасемкі для падшыўкі нагавіц і спадніц і г.д., дэкарацыйная галантэрэя — сутаж і тасьмы для ўпрыгожання вырабаў, і тэхнічная галантэрэя — ізаляцыйныя тасьмы, ізаляцыя на правады і інш.

Усяго ў „Пасманце“ выпрабляецца 180 розных вырабаў. Штогод уводзіцца каля 30% новых вырабаў, г.зн., што праз кожныя тры гады поўнасцю абнаўляецца асартымент.

Высока ставіцца на прадпрыемстве справа якасці вырабаў. 97% усёй прадукцыі ідзе ў першы гатунак. 20 вырабаў фабрыкі атрымала дзяржаўны знак якасці. Высока ацаніў якасць прадукцыі гэтага прадпрыемства гандаль, звальняючы „Пасманту“ ад кантролю якасці.

Усё гэта дзякуючы добраму, зжытаму і высокакваліфікаванаму калектыву рабочых. Фабрыка не мае клопатаў з так званай плыннасцю кадраў. Звыш паловы рабочых працуе тут больш 15 год, а 82% членаў усяго калектыву атрымліваюць дадатак за стаж. Усе стараюцца працаваць так, каб было добра і сабе, і фабрыцы.

Працяг на стар. 4



**Дарожныя партрэты.** Анна Матэнька з Райска. Фота Р. Сянько.




## „ВАЙНА“ З-ЗА АПЕЛЬСІНАЎ

Яшчэ не вырашаны вынік „тэлевізійнай“, „аўтамабільнай“, „стальной“ баталій, як разгарэўся новы гандлёвы канфлікт. На гэты раз сутычка паміж партнёрамі — ЗША і Японіяй — завязалася ў сувязі з гандлем апельсінамі.

45 тысяч тон і ні апельсінам больш. Паводле рашэння японскага боку, столькі цытрусавых у год амерыканцы маюць права ўвозіць у Японію. З пункту гледжання амерыканцаў, такое абмежаванне — яўны пратэкцыянізм. Бо калі б не бар'ер квоты на шляху амерыканскіх апельсінаў, то на японскім рынку іх можна было прадаваць звыш 200 тысяч тон у год.

Заклікаючы свайго партнёра даць ім больш гандлёвых прылаўкаў, амерыканскія экспарцёры прыводзяць розныя довады. Вядома, што вырошчваць і апрацоўваць апельсіны ў ЗША значна танней, чым у Японіі. Акрамя таго, асноўны ўраджай цытрусавых у Краіне ўзыходзячага сонца збіраюць з кастрычніка па май. Такім чынам, імпарт на працягу астатніх чатырох месяцаў не ўшчэміць інтарэсаў мясцовых вытворцаў. І нарэшце, большасць японскіх сартоў апельсінаў, у адрозненне ад амерыканскіх, непрыгодныя для вырабу соку.

Аднак у Японіі свой погляд на праблему. На працягу многіх гадоў краіна вырошчвала лішкі рысу, і ўрад затраціў нямала намаганняў на тое, каб пераканаць фермераў, якія вырошчваюць гэту культуру, перайсці на вырошчванне цытрусавых. Цяпер Японія вырошчвае столькі апельсінаў, што іх хапае і для задавальнення ўнутраных патрэбнасцей і для экспарту. Аднак калі супаставіць цэны, па якіх фермер раней прадаваў рыс, а цяпер — цытрусавыя, то нельга сказаць, што, змяніўшы арыентацыю сваёй гаспадаркі, ён выйграў.

Таму вось японскі ўрад і не спяшаецца ўладжваць чарговы канфлікт з гандлёвым партнёрам.

Чарговы тупік у япона-амерыканскіх гандлёвых адносінах выклікае ўсё большае раздражненне ў амерыканскіх бізнесменаў. Прамаршыраваўшы праз адчыненыя гандлёвыя вароты Амерыкі, заяўляюць яны, Краіна ўзыходзячага сонца навадніла ЗША ўсім: ад спінінгаў да аўтамабіляў. Чаму ж яна не здымае замка з уласных дзвярэй?

**Е. К.**

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**230 гадоў назад**
9 XII 1748 нар. Клод Бертале, французскі хімік, заснавальнік вучэння аб хімічнай раўнавазе.

**180 гадоў назад**
4 XII 1798 пам. Луіджы Гальвані, італьянскі фізіёлаг, адзін з заснавальнікаў вучэння аб электрычнасці.

**175 гадоў назад**
5 XII 1803 нар. Ф. Цютчаў, рускі паэт.

**25 гадоў назад**
6 XII 1953 пам. Канстанты Ільдэфонс Галчынскі, польскі паэт.

**Niwa**

BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY

ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"
Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

ADRES REDAKCJI
Niwa
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 2-32-41

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 2426 Nakład 7.800 egz. N-4




*Новыя Клепачы. Выраслі яны на даўнейшым балоце.*

**Добры дзень, Беларусь!**

# ЖЫЦЦЁ НА БАЛОЦЕ

Калі закончыўся лес і абарвалася асфальтная шасейная дарога, калі мы праскочылі праз нейкую вёску, здаецца Бакуны, адкрыўся перад намі шырокі прастор шэра-карычневага поля і зялёных сенажацяў. Толькі ўздоўж раз'езджанай дарогі і на адхонах глыбокіх меліярацыйных канаваў, якія густой сеткай пакрываюць усю гэтую тэрыторыю, раслі таполі, альшанікі, вербы і лазняк. Каб не табуны чорнабелых кароў, якія часцей сустракаем мы сярод гэтых канаваў, здавалася б, што тут няма жывой душы.

І раптам — за невялікім пералескам, там дзе блішчыць у сонцы люстра возера ці вадасховішча — паявілася на гэтай раўніне людская сяліба. Найперш кінуліся ў вочы нейкія будынкі прамысловага характару. Не цяжка было здагадацца, што гэта адмысловыя вежы для нарыхтоўкі сенажа — спецыяльна перапрацаванай і падрыхтаванай для доўгатэрміновага перахавання травы. Затым мы апынуліся ў пасёлку гарадскога тыпу. Шырокія вуліцы, тратуары, клумбы з кветкамі, шматкватэрныя жылыя карпусы, а побач — домікі-катэджы, па-нашаму — вілы, двухпавярховыя, стаяць у прасторных агародчыках, за сеткай.

— Гэта новыя **Клепачы**, цэнтр саўгаса **„Савецкі“**, — паясняе дырэктар гэтага ж саўгаса, Рошчанка Віктар Іванавіч, кандыдат сельскагаспадарчых навук, па-нашаму, значыць, доктар. А яшчэ зусім малады. Кажа, што ён адсюль, з Пружаншчыны, з вёскі Палонск. Вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Затым практычныя веды накапляў, працуючы аграномам у калгасе. Дзевяць гадоў кіраваў адным з калгасаў у Пружанскім раёне.

І тады захацелася яму аспірантуры. Найперш тры гады вучыўся завочна, пасля яшчэ на два гады накіравалі яго на стацыянар.

— Віктар Іванавіч, — звяртаюся да яго, — навошта вам усё гэта, калі і так прыйшлося працаваць у такой глухамані?

Яго твар раптоўна пунсавее. Чую, што калі б я не быў яго госцем, ён тут жа паказаў бы мне дзверы.

— Вы не правы, паважаны таварыш! — стрымана сказаў доктар Віктар Рошчанка, дырэктар саўгаса. — Мне, дарэчы, прапанавалі пасаду ў акадэміі, але я не захацеў там аставацца. Мае веды кандыдата навук і вопыт арганізатара сельскагаспадарчай вытворчасці найбольш эфектыўна магу выкарыстоўваць менавіта тут. Ці вы разумееце, што **тут ствараецца новы воблік беларускай вёскі?** Быць удзельнікам гэтай будовы, уносіць у яе сваю цаглінку і назіраць, як на тваіх вачах ператвараецца ўсё наваколле, — гэта ж і радасць і шчасце. Ён падышоў да акна, і мы моўчкі наглядалі за звычайнай, здавалася б, буднішняй, штодзённай мітуснёй пасёлка. Тратуарам ад школы, пастроеныя ў шарэнгі, ішлі вучні. Іх чырвоныя піянерскія хусцінкі мільгацелі на ветры. Бадай, спявалі нейкую песню. Ля гандлёвага комплексу стаяла грузавая машына. З яе выносілі нейкія тавары. З другога боку, за вуліцай, там, дзе над недакончаным прасторным гмахам тырчэў велізарны пад'ёмны кран, паблісквалі маланкі зварачных апаратаў. Гэта мантажнікі завяршалі пабудову пасялковага палаца культуры.

— Ці вы можаце сабе ўявіць, — адгукнуўся дырэктар, — што да 1970 года тут абсалютна нічога не было! Распасціралася недаступная для чалавека топель „Дзікі Нікар“. Чулі пра такое балота?

Вядома, што чуў. І сапраўды, паверыць цяжка, што менавіта тут, дзе свой пачатак бярэ рака Ясельда, дзе цяпер бурліць звычайнае жыццё, што тут знаходзілася гняздо „Дзікага Нікара“.

Як гэта ўсё пераўтваралася? Як недаступная топель станавілася ўраджайным ворывам і высакаякаснай сенажаццю? Як выраслі тут фермы? Адкуль узяліся людзі?

Аб гэтым усім наступным разам.

**Віктар Рудчык.** Фота аўтара



*У цэнтры саўгаса „Савецкі“ знаходзіцца прасторная школа.*




Богушы ● Лепшыя гаспадары ў Мокрым ● Скарбы Дзікага Нікара ● Сваты ● І так бывае ● Піліп Саскі бядуе, што позна нарадзіўся ● На Сямяціцкай абутковай ● Весткі з Гарадка, Старакорніна, Міхалова, Новага Ляўкова, Палічнай, Забудава, Карыціскаў, Веек, Гайнаўкі, Нараўкі, Супраслі ● Расчараваная Аня перасцерагае наіўных дзяўчат ● У доктара Знахарука. ● Як бабуля суддзю грушамі частавала ● Песня „В землянке“.




**Sobota 2 XII** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Biol. 7.00 Upr. rośl. 7.30 Hod. zwierz. 8.00 Wojsk. Film Dok. 8.30 Kalendarz przyr. 10.00 Poranek z kulturą. 11.30 Polsce i Partii: 12.00 Tak powstała legenda — radz. dramat woj. 13.00 Sygnały filmowe. 13.30 Studio 2.

**Niedziela 3 XII** — 6.25 TTR. Upr. rośl. 6.35 Hod. zwierz. 7.25 Nasze spotkania. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Drogi i rozdroża Rzeczypospolitej. 11.15 Polskie Bitwy: Somosierra — film dok. 12.10 Dziennik. 12.25 Rolnicze rozmowy. 12.55 Koncert symf. 13.55 Kartki z 35-lecia. 14.20 Piórkiem i węglem. 14.45 Wielobój gwiazd. 15.35 Los. Dużego Lot. 15.50 Zgadnij kim jestem? — teletur. 16.30 Kalejdoskop z „Erygronem". 17.05 Sport. 18.00 Curro Jimenez — odc. hiszp. ser. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Układ krążenia — II odc. ser. 22.05 Koncert barbórkowy. 23.05 Sport.

**Poniedziałek 4 XII** — 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.00 NURT — nauki polit. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Zwierzyniec. 17.20 Filmy Julija Rajzmana: Historia pewnej miłości — dramat społ.-obycz. 19.00 Uszatek i Zębatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. P. Crommalynck: Rogacz wspaniały. 22.05 Jak? — pr. publ. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 5 XII** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. 6.30 Mech. rol. 8.10 Dla kl. VIII Hist. 9.00 Dla kl. V J. pol. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 13.25 TTR. Fiz. 14.00 Wskaz. met. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Studio Mł. 17.25 Interstudio. 17.55 Sonda. 18.25 Raj zwierząt — film przyr. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Miś Uszatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Tanio, bo w sierpniu — film obycz. ang. 21.30 Świadkowie. 21.50 Camerata. 22.20 Dziennik.

**Środa 6 XII** — 6.00 TTR. Fiz. 6.30 Wskaz. met. 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Fiz. 11.05 Hist. 12.00 Wych. plast. 12.45 TTR. J. pol. 13.25 Chem. 15.00 NURT — naucz. pocz. 15.30 Dziennik. 15.40 Obiektyw. 16.00 Dzień dobry, tu telewizja. 16.20 Entliczek-słowniczek. 16.45 Dom i my. 17.00 Skarbiec. 17.30 Między nami jaskiniowcami — ser. USA. 17.55 Sport. 18.50 Los. Małego Lot. 19.00 Kret. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ostatni cowboy — film fab. USA. 22.20 Dziennik. 22.35 Kształt słowa — magazyn lit.

**Czwartek 7 XII** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Chem. 8.10 Dla kl. VII Zool. 11.05 Dla kl. VIII J. pol. 12.55 Dla kl. IV lic. J. pol. 13.25 TTR. Mat. 14.00 Biol. 15.30 Co dalej maturzysto? 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Czwartek TDC. 18.10 Poligon. 18.35 Zielona Góra 78. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Latający zajączek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Niech bestia zdycha — film krym. franc. 22.25 Pegaz. 23.10 Dziennik. 23.25 W minutę po premierze: Puszcza.

**Piątek 8 XII** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Biol. 8.10 Dla kl. VII Geogr. 9.00 Dla kl. V Geogr. 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 12.45 TTR. Mat. 13.25 Biol. 15.20 Red. szk. zap. 15.30 NURT — psych. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Piątek z Pankracym. 17.10 Klinika zdrowego człowieka. 17.30 Pan na Ratuszu — X odc. ser. 18.40 Stawka — teletur. 19.00 Lis i Sroka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Fortepian w powietrzu — kom. węg. 22.05 Świat, ludzie, idee. 22.35 Dziennik. 22.50 Studio teatralne. C. K. Norwid „Nić czasu".




**Piątek 1 XII** — 7.35 Film fab. ser. 17.30 Hokej. CSKA—Torpedo. 1 i 2 terc. 19.00 Dziennik. 19.30 Hokej. 3 terc. 20.05 Pr. muz.

**Sobota 2 XII** — 12.40 Tajemnicza wyspa — film fab. 1 i 2 cz. 15.05 Piosenka 78. 15.45 Film anim. 16.15 W świecie zwierz. 17.15 Gra Rosyjska Orkiestra Ludowa. 17.40 Spektakl. 19.00 Dziennik. 19.30 c.d. spektaklu. 20.40 Koncert.

**Niedziela 3 XII** — 9.00 Film anim. 11.30 Spektakl. 14.25 Panorama międzynar. 15.00 Pr. estrad. 16.15 Filmy anim. 16.40 Klub film. 17.40 Film fab. 20.20 Zawody pływackie.




Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).




**Białowieża** Ebirach potwór z głębin — jap. 5—6. Fałszywy król — ang. 7—8. Przepustka dla marynarza — USA 9—10.

**Bielsk Podl.** Godziny miłości — szwedz. 4. Joe Kidd — USA 5—6. Grzeszna natura — wł. 7—8. Wodzirej — pol. 9—10.

**Czyże** Gang Olsena na szlaku — duń. 6—10.

**Gródek** Dyskretny urok burżuazji — fr. 9—10.

**Hajnówka** Dick i Jane — USA 4—6. Port lotniczy 77 — USA 7—8. Godziny miłości — szwedz. 9—10.

**Michałowo** Zabity na śmierć — USA 5—6. Miłość i anarchia — wł. 7—8. Mimino — radz. 9—10.

**Mielnik** Krótki sezon — wł. 6. Transamerikan express — USA 9—10.

**Milejczyce** Dom pod czerwoną latarnią — węg. 6—10.

**Narew** Kochaj albo rzuć — pol. Gra o jabłko — czes. 6—10.

**Narewka** Szczególny dzień — wł. Milioner — pol. 6—10.

**Nurzec** Podróż — wł. Musisz żyć — NRD 6—7. Czarne diamenty — węg. 9—10.

**Orla** Noc na Chile — radz. Szał — ang. 6—10.

**Rajsk** Oskarżeni o zabójstwo — radz. Płonąca tajga — radz. 6—10.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

## АЛЕСЬ БАРСКІ

## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### СОРАК ПЯТАЕ

Усе прэтэнзіі, усе хістанні,
Якія нас агортваюць штодзённа,
Ствараюць ўражанне псеўдазмагання,
Але за што і з кім — дык невядома.
У вечным крузе непаразуменняў
Шукаем рэчаў тых, што не згубілі;
Перадаюць ўзаемна пакаленні
Памылкі, называючы іх „крыллі".
І вось на гэтых крыллях узлятаем,
Хватаючы надзею ў свае грудзі,
І разумеем, калі ападаем,
Што так, як папярэднікі, мы блудзім.

### СОРАК ШОСТАЕ

Мы, быццам два Хрысты,
Змаганыя раскошай,
З крыжа салодкага
Упаўшыя раптоўна.
Ляжым, як два кадзідлы,
П'яныя ладанам.
Як хмельныя амфоры
Пасярод вінніцы.
Аддаць усё і ўзяць усё —
Вось наша мудрасць.
І не зайздросціць
Чаго-кольвек каму-кольвек,
Сусвет у нашых сэрцах
І мы ў сусвеце,
Мы для усіх і ўсе для нас,
Як хлеб і сонца,
Як п'яныя Хрысты,
Ляжым мы непрытомна,
Як два прыгожыя грахі
У арэолах,
Як два вяселлі,
На адным вяселлі сёння,
А заўтра можа быць патоп
І канец свету.

### СОРАК СЁМАЕ

Далёкі сіні лес,
Заснежанае поле,
Сялянскі сыне,
Не забудзь, не выракайся!
Няхай жывуць у дружбе,
Радасці і болі.
Пры радасці сумуй,
Да суму усміхайся!
Гарадзь зялёным полымем
Лугі былога,
Другіх багоў даў лёс
І загадаў маліцца,
Але не выракайся
Песеннага бога,
Які ёсць лесам,
Цалаваным бліскавіцай.
Ідзі мяжой,
Цябе чакае нечаканасць,
Валошкавы прастор
Бязмежны і бязрамны,
Далёкія лясы,
Як велічная драма.
О, лёсе, дзякуй —
Я натрапіў на след мамы.

### СОРАК ВОСЬМАЕ

Ніякі бог, ніякая ідэя
Нас з абавязку думаць не звальняе.
У кожным з нас ёсць частка Галілея.
Жывеш, калі яе ты развіваеш.
Ды ці гатоў прыняць з рукі жаўнера
Ты смерць, баронячы сваё маўчанне?
Ці мы жыцця сапраўды інжынеры?
Ці лёс — канструктар нашых
парыванняў?
Жыццё, як нітка, безупынна рвецца,
А мы яе як можам, так і вяжам;
Вялікі свеце, імпульс майго сэрца,
Я вязень твой і я таксама страža.

### СОРАК ДЗЕВЯТАЕ

Ці гэта была песня
Аб вятрах ліпнёвых,
Ці можа ода
Аб прывабнасці узлоння?
І хто яе спяваў?
Багі салодкай мовай?
Ці прага, рэзблёная
У пальцах і далонях?
Ды гэта толькі інтуіцыі вядома —
Яна пранікла
Усе слаі маёй істоты;
Хадзілі веліканы
І хадзілі гномы.
Спавалі вакол нас
Сонцападобны мотак.
І нас утквалі
У арнамент, у Меандры,
У звіткі дзіўныя,
І у вузлы загадак.
І нават я
Мячом магічным Аляксандра
Не змог расцяць вузлоў,
Не змог дайсці да ладу.
Згубілі ногі грунт,
І свет перакуліўся,
І чэрні апранулíся
Ў ружовы колер.
О, смутку мой!
Ты весяліся, весяліся,
Бо сёння зацяжарыла
Пшаніца ў полі.

### ПЯЦІДЗЕСЯТАЕ

Малюся перад сном,
Каб заўтра сноў сваіх
Не прадаваць, як праўду.
Бо колькі ж міфаў шкодных
Нас штодзённа акружае.
Мінаюць дні,
Як рынгавыя раўнды.
У жорсткай барацьбе з сабой
Павольна я згараю.
А ў ночы чорныя я сню
Сны каляровыя, як краскі,
І уваходжу ў дні,
Разгублены у зманах,
І прадаю як факт праўдзівы
Свае казкі.
Ці абкрадаю я кагось,
Ці сам я абкрадзены?
Жыццё — туманнасць чорная
На змену з сіняй;
Калыша хваля нас
То радасці, то плачу.
Квітнеем, усміхаемся, жывем.
А сапраўды — дык гінем
Так ціха і павольна,
Што не чуем і не бачым.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ПЕРШАЕ

Ой, хіба толькі бог,
Які завецца — зелень,
Нам ад саміх сябе
Даць можа паратунак.
Віхрацца гарады,
Як чортава вяселле,
А мы сядзім шчаслівыя
Ў бетонных трунах.
І ўсе там нешта радзім,
Нешта адкрываем,
А ў нашых сэрцах
Замірае луга песня.
Мы не жывем.
А толькі пражываем,
Забылі, як гудуць
Сакавікі прадвесня.
Братэрства, роўнасць...
Як ідэяў многа,
Ды ўсё пустое,
Толькі галаслоўнасць роляў...
Пакінь усё, усё,
Ідзі сустрэць Талстога,
Які штодзённа ходзіць
Паглядзець на поле.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ДРУГОЕ

Вышэй ужо ісці няма куды,
Во вокал нас паднеб'е і сузор'і.
Ты, як крыніца чыстае вады,
Як шчасце, за якім — абрыў і гора.
Як добра, што магу сказаць — мая
І верыць, што пацвердзіш маё слова;
А тваё цела, як любві маяк,
Заўсёды патануць у вір гатова.
У вір, які нас кінуў у пасцель;
Мы — дзве крыніцы у адзіным ложы,
Цалуе ночы чэрнь пасцелі нашай
бель,
Не, не ратуй нас, грэшных, святы
божа!

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ТРЭЦЯЕ

Стрывай, мой гнеў,
Раз'юшанасць, успіся,
Трыумф ці паражэнне —
Усё роўна.
Вялікі я —
Дык прад малым спынюся,
Вялікі — дык скажу:
— З малым я роўны.
Нам вечна хочацца
Тых дасягненняў,
Што мы на іх
Ніяк не заслужылі;
І кожна здабытае здзяйсненне —
Як бы зламаныя
Удачай крыллі.
І зноў наперад
Думкай выбягаем,
І помнікі будуем
Над гарою.
І бачым,
Калі мэты дасягаем,
Што новае па сутнасці —
Старое.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ЧАЦВЕРТАЕ

О, зноў асот зацвіў у лузе дзікім,
Ён бескарысны, але як прыгожы;
Калючасць вуснаў у чырвоным
крыку,
Ці ў песні, ці ў малітве гордай ложа.
О, прамінанне часу, задуменне,
Хтосьці расцвіў, а хтосьці іншы вяне.
Чырвоны цвет і чорнае карэнне
Сабе у вочы паглядзець не ўстане.
Мы толькі звенні дыялектаў дзіўных,
Прычыны, скуткі, непаразуменні;
Прайшлі над светам чэрвеньскія лівні,
І ўся зямля у палавым гарэнні.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ПЯТАЕ

Мая ты, ў гэтых словах вечнасць,
Свет запярэчыць ім не ўстане.
Непаслядоўнасць, супярэчнасць
У логіцы кахання.
Бывае сіняя зямля
І неба чорнае бывае,
Каханне мае краявід
І свае вербы-плачкі;
Свет цэлы ў добрым сэрца гаі —
Такі, як ёсць — без здачы.
Далоні дрэў
Зноў моляцца над рэчкай,
І зоркі падаюць на плечы хатам.
Бязмоўны свет, нямое чалавецтва
Гамоняць, што мая ты.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ШОСТАЕ

Я толькі эпізод
Мізэрны, выпадковы.
У гэтым краявідзе,
Гэтым наваколлі.
Усё закончана
І ўсё тут не гатова;
Свет вечных парадоксаў,
Квадратура кола.
Мне цяжка прызнавацца
Ў тым, што я нікчэмнасць;
Не ведаю, што я губляў
І што знаходзіў,
Ці ўсё ў жыцці
Было пачата надарэмна,
Ці ў барацьбе з сабой.
Ці мо з сабою ў згодзе?
О, пошук мой!
Ты толькі на кані сумненняў
Праехаў шлях той,
Недарэчліва зблытаны,
Што не давёў мяне
Да праўд усіх карэнняў,
Але да горкіх дум
І да балючых ранаў.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ СЁМАЕ

Ужо лук сонца нацягнуў цяціву —
І стрэлы промняў паляцелі на зямлю.
А май у бэзе фіялетавы, шчаслівы,
Духмянасць нашую даў роснаму
галлю.
Вясна у травах буйных да каленяў,
Дык сёння ж не саромся самых
чулых слоў.
Былі і промахі ў жыцці, былі
здзяйсненні,
Жыццё да шчасця і да бедаў нас
вяло.
Але зноў песня ў бэзавым гарэме,
Сто лісцяў чыстых ва ўладанні
салаўя,
Дык вырываю ўсё начыста з сэрца
стрэмя —
І сонцам я, і бэзам я, і песняй я.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ВОСЬМАЕ

Калі ты скінеш
Вопратку манашую
І станеш у траве,
Як помнік шчасця,
Тады пад ліпаў чэрвеньскіх
Паддашамі
Адбудзем найсвяцейшае
Прычасце.
Грашы —
Каб мог у будучым сароміцца,
Грашы —
Каб мог у будучым успомніць;
Лісцё дрыжыць на дрэвах,
Нібы конніца,
Узброеная ў сонечныя промні.
І колькі песень у вясны за пазухай,
Столькі і шчасцяў,
Даных нам сягоння.
Глядзі, над лесам
Колерная радуга,
Маланкі кволыя
Ў тваіх далонях.

### ПЯЦЬДЗЕСЯТ ДЗЕВЯТАЕ

У лесе дрэвы ўсе —
Браты і сёстры у каронах.
Іх хлеб —
Дажджы, зямля і промні.
А я, з сякерай, хто?
Я Гітлер для сасонак.

### ШАСЦІДЗЕСЯТАЕ

Паэт — удовін сын —
Шчаслівым быць не можаш,
Ты горкі працаўнік,
А не герой удалы.
А верш пісаць —
Што доўга ў жорнах
Малоць збожжа;
Малоць, малоць, малоць
І мецъ мукі ўсё мала.
І што б ты не сказаў,
Напэўна будзе блага,
Бо можна было б лепш —
Так многія дарадзяць.
І не заўсёды табе хопіць
Лот адвагі,
Каб братам праўды быць
І каб сябе не здрадзіць.
Народ твой сірата —
Не помніць маці мовы;
Ён думае, што жыць
З чужой душою можна;
Паэт, ты ўдовін сын!
Шукаеш зерня — слова.
А твой спакой завецца —
Вечная трывожнасць.

# На культурнай ніве



*Сцэна з п'есы „Генерал Барч“.*

У беластоцкім драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі адбылося дзве прэм'еры.

На вялікай сцэне была пастаўлена ў гонар 60-годдзя незалежнасці Польшчы п'еса паводле аповесці Ю. Кадэна-Бандроўскага „Генерал Барч“. Гэта аповесць была напісана ў 1922 годзе, а яе падзеі адбываюцца ў атрымаўшай незалежнасць Польшчы 1918-1922 гадоў. Як прадстаўляе аўтар гэты перыяд?

Як „радасць ад атрымананага сметніка“, як пачуццё, якое не паддаецца ніякім аналізам, не хоча бачыць ані цёмных бакоў, ані будучай небяспекі: няхай будзе сметнік, абы наш.

Сваёй аповесцю аўтар ужо тады перасцерагаў польскі народ перад памылкамі будучыні, паказваючы сатырычна сучасную яму краіну паўсюднай нязгоды, неакрэсленых поглядаў — усяго таго, што было так характэрна для тых часоў, калі патрыятычны міф незалежнасці, існуючы на працягу сотні гадоў, меў ператварыцца ў дзейсны механізм дзяржаўнасці.

Рэжысёрам і пастаноўшчыкам гэтай нялёгкай п'есы на сцэне беластоцкага тэатра з'яўляецца Ежы Зэгальскі, новы дырэктар тэатра, які працаваў ужо дырэктарам гэтага тэатра ў гадах 1962-1967. Цяпер прыбыў з Кракава, дзе працаваў дэканам аддзялення рэжысерыі ў Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школе імя Л Сольскага, ставіў таксама пастаноўкі на сцэнах кракаўскіх тэатраў.

Трэба сказаць, што ў гэтым сезоне ў Беласток вярнуліся многія артысты, якія раней працавалі ў тэатры, як Станіслаў Яшкоўскі, Зенон Якубец і іншыя. Прыйшло таксама шмат моладзі, толькі што закончыўшай тэатральныя школы. Амаль з адной моладзі складаюцца дзеючыя асобы ў другой п'есе „Бывай, Юдаш“ сучаснага драматурга Ірэнеуша Ірэдынскага, якую тэатр паставіў на малой сцэне ў рэжысерыі Войцеха Пісарка. Добра іграе Іаанна Ладынская, якая, як і рэжысёр гэтай пастаноўкі, закончыла толькі ў гэтым годзе кракаўскую вышэйшую тэатральную школу.

(ач)

# БУДЗЕ НАМ ЗЯЛЁНА

Сёлетняй восенню ў Гарадоцкай гміне было пасаджана 1100 дрэўцаў ліпы, бярозы і рабіны. Дрэўцамі ліпы і чаромхі абсаджана дарога з Баброўнікаў у Лужаны. Найбольш кустарнікаў пасаджана ў самім Гарадку. На будучую вясну тут закрасуюць кусцікі амерыканскай чаромхі, форсу, сухадрэву і тамара.

✲

У гміне Хорашч вясною зялёная шата ўзбагацілася на 1000 дрэўцаў таполі, вярбы і рабіны і яшчэ на 500 кусцікаў язьміну і ружы, а восенню на новым спулдзельчым пасёлку ў самой Харошчы пасаджана 30 тысяч аздобных кустарнікаў.

✲

У Заблудаўскай гміне сёлета пасаджана 2 тысячы таполяў, ліпаў, клёну, чырвонага дуба, вярбы і елак, а таксама паўтары тысячы кусцікаў ружы, язьміну і шыпшыны.

✲

У Чыжоўскай гміне сёлета вясною было пасаджана 2 тысячы таполяў і 1400 ружаў і восенню — па 1000 дрэўцаў таполі і ліпы ды яшчэ 1000 кустарнікаў, у тым ліку 500 кусцікаў язьміну.

Гміннае ўпраўленне купіла на гайнаўскім прадпрыемстве „Лес“ 10 тысяч калкоў, каб можна было прывязаць да іх кволенькія яшчэ дрэўцы.

(яц)

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XVIII

### „СЫМОН-МУЗЫКА“ Ў ЛІТАРАТУРНАЙ КРЫТЫЦЫ

Адным з найпрыгажэйшых рамантычных праяваў не толькі ў паэзіі Якуба Коласа, але і ва ўсёй беларускай літаратуры з'яўляецца паэма „Сымон-Музыка“. Твор гэты мае выключна складаную біяграфію. Да яго стварэння прыступіў Колас у 1911 годзе. Першая версія твора была апублікавана ў 1918 годзе. У гэтай версіі было не мала містычна-рэлігійных элементаў. Быць можа, з гэтай прычыны паэт пачаў перапрацоўваць паэму, стараючыся надаць ёй больш „рэалістычную“ форму. Трэцяя, канчатковая рэдакцыя твора паявілася ў 1925 годзе, Паэма, хаця і значна адрозніваецца ад першай рэдакцыі, то ўсё ж захавала рамантычны фундамент.

Пасля выхаду ў свет паэмы паявілася вялікая колькасць крытычных публікацый, аўтары якіх падкрэслівалі выключную арыгінальнасць і вартасць твора.

Крытык Дзяржынскі называў „Сымона-Музыку“ „паэмай суб'ектыўных рэальнасцей“. Другі выдатны беларускі даследчык Ю. Бярозка глянуў на паэму Коласа як на праграму практычнага дзеяння: „Нельга глядзець на рамантыкаў як на людзей адарваных ад жыцця, ад рэчаіснасці. ...У гісторыі паэзіі рамантыка з'яўлялася літаратурным выражэннем маладых, узыходзячых сіл, поўных веры ў сваю сацыяльную місію і сілы свае клясы. Рамантыка — гэта літаратурны аванпост маладой узыходзячай клясы, гэта літаратурны штандар яе штурмовых кагорт. Менавіта як рамантычная праграма, як дэкларацыя ў захопным вобразе юнака-скрыпача ўспрыймаецца мною паэма Коласа“.

У трыццатыя гады паяўляецца цэлы рад артыкулаў, аўтары якіх атакавалі тых крытыкаў, што ў дваццатыя гады захапляліся вартасцю „Сымона-Музыкі“. Аўтары гэтыя аспрэчвалі таксама паэму Коласа, прыпісваючы ёй містыцызм, культ мастацтва, нацыяналізм. Бадай што найвастрэй атакавалі „Сымона-Музыку“ А. Кучар, Я. Бранштэйн, Р. Пасюковіч.

У пасляваенны перыяд даследчыкі глядзяць на „Сымона-Музыку“ як на твор, цесна звязаны з капіталістычнай рэчаіснасцю. В. Барысенка піша наступнае: „Сацыяльны пафас паэмы накіраваны на адмаўленне капіталістычнай рэчаіснасці, на адмаўленне эксплуататарскага грамадства, якія абмяжоўваюць і душаць духоўныя, у тым ліку і мастацкія здольнасці народа“. Калі крытыкі трыццатых гадоў закідалі паэме нацыяналізм, дык Барысенка гаворыць, што ў творы праяўляецца інтэрнацыяналістычная тэндэнцыя.

Да зусім нечаканых канклюзій дайшла Л. Фіглоўская, якая адкінула тэзіс аб рамантычным характары „Сымона-Музыкі“ і звязала твор з такімі рознымі напрамкамі, як крытычны рэалізм і сацыялістычны рэалізм. „Сымон-Музыка“ — выдатны твор беларускай літаратуры крытычнага рэалізму. Але ў ім праяўляюцца ўжо элементы новага метаду — сацыялістычнага рэалізму“.

Аб рамантычным характары „Сымона Музыкі“ пераканаўча гаварыў у сваіх пасляваенных работах Ю. Пшыркоў. Да вельмі цікавых належаць, несумненна, публікацыі М. Мушынскага.

Нягледзячы на тое, што крытыкі дваццатых гадоў і многія сучасныя беларускія даследчыкі сказалі многа каштоўнага аб рамантычным характары „Сымона-Музыкі“, усё яшчэ няма поўнай яснасці ў справе сувязей гэтага твора з рамантычным напрамкам, і таму паэма надалей з'яўляецца ўдзячным грунтам для пошукаў і даследаванняў.

# ФАЛЬКЛОР

## ВЯСЕЛЬНАЯ

*В нэділю рано на мшу звонёно,*
*в нэділю рано на мшу звонёно.*
*— Кей тобіе, Валюню, до Божого дому,*
*кей тобіе, Валюню, до Божого дому.*
*— Ой, кей шчэ й нэ кей шчэ, за годыну, ойчэ,*
*ой, кей шчэ й нэ кей шчэ, за годыну —*
*я свому батёнцы ны уклоныласъ,*
*я свому батёнцы ны уклоныласъ,*
*я своёй матёнцы ны уклонылася,*
*я своёй матёнцы ны уклонылася.*
*— Дітетко, кланяйся ныээнько,*
*дітетко, кланяйся ныээнько,*
*бо вжэ твое віенчэне блізэнько,*
*бо вжэ твое віенчэне блізэнько!*

Ад Аляксандры Мартынюк, 1904 года нараджэння, вёска Баброўка, гміна Мілейчыцы, запісаў улетку 1978 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.




лубчык, гані манету — плаці халасцяцкі, народная назва „быковэ“. Ці ж не жаночыя гэта ўсё хітрасці і выдумкі?... Ці ж так можна крыўдзіць бедных мужчын? Дакладней прыгляньцеся да вынікаў вашай памылкі і палічыце, колькі нашага мужскога брата па поваду вышэй прыведзенага так і памірае халасцякамі. Праўда, маем тут і сваіх памочнікаў у нашым мужчынскім горы, і з'яўляюцца імі нашыя мілыя птушкі буслы. Яны могуць жадаючым быць бацькам і мужам публічна рыхтаваць падаруначак, або нават яго і падарыць, не дачакаўшыся поўнага афармлення ўсіх гэтых складаных шлюбных працэдур. У такім выпадку ўсе гэтыя драконскія шлюбныя правы лагаднеюць крыху. Вельмі пацяшальным з'яўляецца і той факт, што хаця гэты птушыны род і выміраючы, але ў апошнім часе вельмі ж актывізаваўся ў нясенні дапамогі халасцякам. Відавочна, перад поўным знішчэннем хоча аставіць па сабе добры ўспамін. Ад імя ўсіх мужчын сардэчнае дзякуй ім за гэта. Калі ж буслы не ўмяшаюцца ў справу, бяда з табой. А патрэбныя ім розныя стажы для таго, каб бліжэй прыглянуцца табе, усё пра цябе пранюхаць, каб часам не прамахнуцца. Перыяд гэты вельмі цяжкі і небяспечны для мужчыны. На розныя кавалерскія гастролі дазволіць сабе не можаш. Мусіш жыць манахам і трымаць вуха востра. І хаця не вер таму, што ўсе для цябе сапраўды такія ўжо добрыя, ласкавыя: і дзяўчына, і будучая цёшча, і ўсе іншыя члены сям'і і радні. Часта запрашаюць да сябе, распытваюцца аб усім, частуюць, нават гарэлкай, а не вып'еш, крыўдзяцца. Усё гэта, браток, яўная правакацыя, яны шукаюць у цябе слабых месц, і, калі не будзеш дастаткова пільным, уліпнеш і жанатым на гэты раз яшчэ не будзеш. І што горшае, у гэтых практыках на нашу некарысць прымаюць актыўны ўдзел таксама сямейнікі дзяўчыны, мужчыны. А і сама шлюбная працэдура вельмі дзіўная цяпер. У часе яе абсалютна сур'ёзна запытаюць, ці маладажоны астаюцца пры сваіх прозвішчах, ці жонка прымае прозвішча мужа, ці муж жонкі? Чулі? Муж прозвішча жонкі! Гэта ж не жаніцьба, а разбой сярод белага дня. Значыць, калі толькі затнецца жоначка (а гэта то яны рабіць умеюць), то і будзь здароў, радовае прозвішча!

Вось табе і прадаўжальнік роду, вось табе прадаўжальнік прозвішча...

**Піліп Саскі**

М. ШАХОВІЧ

# З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**звоняк** — драўляны, або акованы жалезам абруч кода ў драўляным возе. Озьмі звоняк і шпрыхі і давай колесо зложым.

**люшня** — спецыяльна афармлены драўляны кіёк, спалучаючы вось з кланіцай. Не цёгай за люшню, бо поломіш. Поломалася люшня і нема з чого зробіць.

**поўкошыкі** — тое, што інакш называюць кельнямі. Гэта сплеценыя з лоз шчыткі, якія клалі ў воз (найчасцей драўляны), каб нічога не высыпалася. Дзе ты поўкошыкі подзіела? Озьмі прынесі поўкошыкі.

**троніло** — развідлены, спецыяльна афармлены драўляны шост, спалучаючы заднюю частку воза з пярэдняй. Озьмі потрымай за троніло.

**стаўка** — жалезны персцень, падтрымоўваючы троніло. Трымай за троніло, а я стаўку наложу.

**скрут** — гэта тая частка воза, да якой прымацоўваюцца кланіцы. Подзівісь; як скрут от сонца лоп.

*(Лубнікі, гміна Заблудаў)*

## GEORGE BENSON



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказваў Юрка Трачук.




Дарагое Сэрцайка, першы раз выйшла я замуж у 18 год, школы нават не закончыла. Бацькі не згаджаліся. Але, закаханая па вушы, я нікога не слухала. Уцякла з каханым на другі канец Польшчы. Дзеці пасыпаліся адно за другім, я не працавала, бо і дзеці малыя, і школа незакончаная. А муж, калісьці такі сардэчны, ветлівы, стаў п'яніцай, гультаём ды грубіянам у адносінах не толькі да мяне, але і да дзяцей. Ды на рабоце нідзе не затрымаўся. Так прамучылася я пяць год. Урэшце згарнула ў чамадан усё сваё багацце, забрала дзяцей, ды гайда назад — да бацькоў. Падала на развод, на аліменты. З тымі аліментамі дык усяляк бывала — больш не плаціў, як плаціў. Але ўладкавалася я на работу, мама памагла мне выхоўваць дзяцей і закончыла я завочна школу. Ну, так сказаць, стала на ногі, стала жыць па-чалавечы. І праз дзесяць гадоў пасля разводу, ліха падкусіла выйсці замуж яшчэ раз — за разводніка. Крыху страшнавата было, бо раз-пораз стаяў перад вачыма вобраз майго жыцця з першым мужам, але гэты паказаўся такі мілы, такі сардэчны да дзяцей, што згадзілася, хоць ведала, што сваіх дзяцей пакінуў. Праўда, да гарэлкі то ён меў схільнасці, але, падумала, вазьму ўсё ў свае рукі і адвучу яго. А тут сталася наадварот. Гэты паслухмяны хутка акунём стаў. Стаў часта піць, выявілася, што залеглых аліментаў шмат, ды ўрэшце і каханку знайшоў. Пачаліся сваркі, непаладкі, адным словам — бяда ў хаце. І нашто мне ўсё гэта? Думаю падаць на развод, ды ўжо ад людзей сорамна, але як жыць?

Расчараваная Аня

Аня! Праўда, не пашанцавала табе ў жыцці. Першы раз ты зрабіла памылку — ну, маладая, неразважлівая, бывае... Але другі раз ты павінна была падыходзіць да справы больш асцярожна. Ён жа пакінуў жонку з дзецьмі і ты аб гэтым ведала. Выйсці замуж варта, але трэба дакладна пазнаць партнёра, прааналізаваць усё, ды не выходзіць за такога, які пакінуў сваю сям'ю, сваіх дзяцей.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Амаль кожную ноч сняцца мне валасы. Яны ў мяне адным разам распушчаныя, доўгія і вельмі прыгожыя, другім разам заплецены ў касу і таксама доўгія, ясныя і прыгожыя (у мяне сапраўды валасы даўгаватыя, але ўсё ж такі не такія прыгожыя). Што яны абазначаюць?

Галіна з Бельска

Астроне, мая сястра жыве ў іншым горадзе. У яе памерла дзіця. І сніцца мне, што я з мужам у тым жа горадзе. Стаім на тратуары, а з другога боку вуліцы бачу: стаіць гэтае дзіця. Я ведаю, што яно памерла, і гавару мужу: „Глянь, вунь тое дзіця стаіць". Апранута яно было ў куртку ў клетку, ведаю, што быў там колер чырвоны. І вось ужо тое дзіця нібы на вуліцы стаіць пры невялікім століку, і тут жа я з мужам. На століку дзве торбачкі з пілюлямі. У адной вялікія пілюлі, карычневыя. Пілюлі гэтага хлопчыка, і ён як бы дазваляе нам іх браць. Мужык узяў вялікую пілюлю. А я паглядзела і кажу: „Не, я не вазьму, бо яны вялікія і я іх не праглыну". Так і прачнулася.

Анна

**Галіна з Бельска!** Сны твае вельмі добрыя (хаця ў сапраўднасці ў цябе іншыя валасы) і абазначаюць для цябе прыбытак.

**Анна!** Сон твой нядрэнны, бо сніўся ж табе нябожчык, але, думаю, што больш ён навеяны рэчаіснасцю, успамінамі, бо і ты, мусіць, смерць гэтага дзіцяці вельмі перажыла.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Н. пабудаваўся так, што не мае даезду да вуліцы праз сваю сялібу, а выязджае акружной дарогай праз польную дарогу, якая ў часе, калі ідуць дажджы, непраездная. Ён патрабуе ад свайго суседа, каб той дазволіў яму праязджаць праз яго сялібу, пагражаючы, што падасць у суд, каб яму вызначылі неабходную дарогу, што пацягне за сабой судовыя кошты, якія змушаны будзе заплаціць О. Ці патрабаванне Н. законнае? А што было б, калі б О. паставіў будынак на месцы, у якім Н. хоча мець праезд на вуліцу?

АДКАЗ: Калі нерухомая маёмасць не мае адпаведнага доступу да публічнай дарогі, яе ўласнік можа патрабаваць ад уласніка суседняй нерухомай маёмасці ўстанаўлення за адпаведную кампенсацыю неабходнай дарогі. Аднак калі ўласнік сялібы, якая мае доступ да вуліцы, сам так яе забудуе, што не мае доступу да вуліцы, то не ён мае права патрабаваць ад суда ўстанаўлення неабходнай дарогі на яго зямлі. Такая самая сітуацыя ўзнікла б, каб уласнік пляцу прадаў частку сваёй зямлі, а астатняя частка праз гэта не мела доступу да дарогі. Дарога магла б быць вызначана толькі праз прададзеную частку пляца, нават калі б набыўца паставіў на ім будынкі, якія зрабілі б немагчымым даезд да дарогі. У выпадку, калі ўласнік нерухомай маёмасці мае права патрабаваць ад суседа праезду праз яго зямлю і можа падаць у суд, каб вызначыць неабходную дарогу, суд не мае права перашкаджаць у рэалізацыі гэтага права праз забудову свайго пляцу.

## Куток практычных ведаў




# КРЫХУ САЛОДКАГА НА НЯДЗЕЛЮ

### БІСКВІТ З МАННЫ

На 8 дэкаў манны трэба ўзяць 3 яечкі, 8 дэкаў цукру, шклянку малака, крыху масла для змазвання формы і лыжку цёртай булкі, каб форму пасыпаць.

Жаўткі яечак аддзяліць ад бялкоў. Збіць з бялкоў моцную пену, дадаць цукар і збіваць яшчэ хвіліну. Дадаць да пены жаўткі, яшчэ збіваць, а тады пакрысе дадаваць манну. Палажыць цеста ў форму, змазаную маслам і пасыпаную цёртай булкай, уставіць у духоўку. Спечаны бісквіт, выняўшы з духоўкі, адразу заліць малаком і ўставіць яшчэ на некалькі мінут у духоўку. Падаваць бісквіт, паліты фруктовым сокам ці ўпрыгожаны варэннем.

### ХУТКАЕ ПІРОЖНАЕ

Узяць 4 пачкі звычайнага пячэння, 20 дэкаў масла ці маргарыну, 2-3 лыжкі перацёру ці джэму з парэчак, лыжку цукровай пудры.

Маргарын ці масла расцерці на гладкую масу, а пасля дадаваць цукар, джэм і яшчэ ўсё разам расцерці. Разлажыць палову пячэння на дошцы, змазаць яго масай, накрыць кожнае пячэнне з масай другім пячэннем і лёгка прыціснуць. Можна памазаць пячэнне яшчэ зверху і на кожнае палажыць крыху варэння. Астудзіць пячэнне.

### ПІРОГ З ФРУКТАМІ

На 20 дэкаў мукі бярэм паўпачкі масла ці маргарыну, шклянку цукру, 4 яечкі, 20 дэкаў мукі, чайную лыжачку парашку для пячэння, 4 яблыкі, некалькі груш і сліў з кампоту, тлушч для змазвання бляхі, лыжку цёртай булкі, лыжку цукровай пудры і ванільны цукар.

Маргарын ці масла расцерці з цукрам і яечкамі на гладкую масу, дадаць муку з парашком і яшчэ разам расціраць. Калі цеста атрымаецца вельмі густое, можна дадаць лыжачку малака. Яблыкі абабраць, усе фрукты парэзаць на тонкія скрылёчкі, змяшаць з цестам. Цеста пералажыць у змазаную маслам і пасыпаную цёртай булкай бляху. Гатовае цеста пасыпаць цукровай пудрай, змешанай з ванільным цукрам.

**Гаспадыня**

## Этнаграфічнае акенца



Колішняе будаўніцтва ў вёсцы Баброўка гм. Чаромха. Хлеў з „кучамі" для быдла і каня знаходзіцца збоку вуліцы пад адным дахам з хатай. Страха саламяная з „прычолкамі".

Фота М. Гайдука.




Сівы высокі чалавек з маладым тварам падышоў да акенца і падаў бланк тэлеграмы. Праз хвіліну з акенца пачуўся адказ:

— У Кракаў? Трэба тэкст тэлеграмы запоўніць яшчэ і лацінскімі літарамі...

Чалавек узяў вернуты яму бланк тэлеграмы і агледзеў залу пошты, як бы шукаючы дапамогі. Я падышоў да яго:

— Я ведаю лацінку. Магу дапамагчы...

— Калі ласка, — узрадаваўся той.

Мы селі за столік. Тэкст тэлеграмы быў доўгі. У канцы стаяў подпіс: „Былы камандзір разведвальнага атрада групы „Голас" Блізнякоў Яўсей Нікіфаравіч".

Заставалася цяпер толькі мне прадставіцца. Там мы пазнаёміліся.

— А я, ведаеце, — сказаў я, — таксама быў на Першым Украінскім фронце. Мы наступалі з Сандамірскага плацдарма на Кракаў... Дык гэта вы далі нашаму камандаванню звесткі, дзякуючы якім Савецкая Армія выратавала Кракаў ад разбурэння?

— Так, гэтыя звесткі дала наша група „Голас"...

— Відаць, нялёгка вам дасталіся гэтыя звесткі, Яўсей Нікіфаравіч? — пацікавіўся я. — Спаткаць такога чалавека і не распытаць пра подзвіг групы „Голас", так сказаць, з першых крыніц было б недаравальна. З кніжак, выдадзеных у Маскве і Кіеве, я ведаў, што Яўсей Блізнякоў — беларус з вёскі Камянец Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. А ў Беларусі пра выдатнага земляка нічога яшчэ не напісана...

Яўсей Нікіфаравіч усміхнуўся:

— І нам здавалася, што гэта будзе нялёгка...

Блізнякоў зірнуў на гадзіннік. Я баяўся, што ён папросіць зараз прабачэння і... Але ён, відаць, адчуваючы сябе даўжніком, сказаў:

— Ну, на работу я ўжо сёння не пайду. Сябар па разведцы прыязджае. Трэба тое-сёе падрыхтаваць да сустрэчы. Мы не бачыліся трыццаць гадоў...

У мяне адлягло ад сэрца. Мы селі на лавачцы, і Блізнякоў пачаў свой расказ:

— Група „Голас" атрымала заданне сабраць даныя аб умацаваннях гітлераўцаў у раёне Кракава. Частковыя звесткі, якія мы, выконваючы заданне, перадалі па рацыі, Цэнтр ацаніў як вельмі каштоўныя. Але патрэбна была поўная карціна ўсіх умацаванняў гітлераўцаў вакол Кракава і ў самім горадзе. Патрэбу і важнасць гэтых звестак мы адчувалі самі. Сярод насельніцтва хадзілі трывожныя чуткі: гітлераўцы рыхтуюцца ўзарваць старажытны горад разам з насельніцтвам і ўступіўшымі ў горад воінамі-вызваліцелямі.

Справа ўскладнялася тым, што на будаўніцтва сакрэтных аб'ектаў гітлераўцы не бралі насельніцтва, ад якога мы маглі б мець патрэбныя Савецкай Арміі звесткі.

„Тое, што нам патрэбна, мы можам атрымаць толькі ў тых, хто будуе гэтыя ўмацаванні і рыхтуе разбурэнне горада", — разважалі мы.

Праз некаторы час разведчыкі нашай групы ўстанавілі: інжынерная часць раёна ўмацаванняў знаходзіцца ў вёсцы Рацiховіцэ. Камандуе ёю генерал-маёр. Пачалі высвятляць, што гэта за птушка і як яе злавіць.

Наш штаб і рацыя знаходзіліся ў гарах. Але ў Кракаве і навакольных мястэчках і вёсках былі людзі, якія ахвотна нам дапамагалі, чым толькі маглі. Яны пільна сачылі за паводзінамі акупантаў...

Неўзабаве мы даведаліся: пасяліўся генерал-маёр у змешанай польска-ўкраінскай сям'і. Аб'ектам яго асаблівай увагі была дачка гаспадароў. Бацькам, аднак, быў не па сэрцу „жанішок-генерал", як і ўвогуле ўсе гітлераўцы. Гэта было вельмі важна. Родны бацька прыгажуні аказаўся сувязным польскіх партызан. Зноў жа на нашу карысць. Узнік план: дзядзька прыйдзе да брата і прывядзе з сабой савецкіх ваенных разведчыкаў. Гаспадары скажуць генералу, што гэта іх сваякі — паліцаі, якія ўцяклі з Цярнопаля. Якраз у іх былі там сваякі. Ноччу пасля „прыёмнай" сустрэчы з выпіўкай, да якой генерал быў ахвочы, госці выйдуць з хаты нібыта па сваёй патрэбе, скруцяць вартавых, потым звяжуць „жанішка", а прыгажуню разам з бацькамі з іх згоды вывезуць у надзейнае месца.

Усё выглядала нядрэнна. Але, як кажуць у народзе, „не гавары гоп..." Нейкі атрад польскіх партызан, зусім не ведаючы пра падрыхтоўку аперацыі з „жаніхом", на дарозе, вяртаючыся з задання, абстраляў машыну, у якой ехаў генерал-маёр. Той напалохаўся так, што пачаў ліхаманкава прымаць захады па ўмацаванню аховы сваёй асобы. Генералу далі бронетранспарцёр, у якім ён ездзіў па сваіх службовых справах і на кватэру. Ля дома ўзмоцнілі ахову. Пра тое, каб дзядзьку сунуцца са сваімі „беднымі" сваякамі, і гаворкі не магло быць.

(Працяг будзе)

